

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на ½ г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 9 (83) | 10 мая 1930 г. | № 9 (83)

## ЗЬМЕСТ.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

**Паст. 97. Пра зарплату, сутачныя і кватэрныя для асоб, камандыраваных для правядзеньня сацыяльна-эканамічных мерапрыемстваў.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Рабочыя і служачыя, што пасылаюцца ЦП саюзаў, па згодзе з гаспадарчымі органамі, і акруговымі бюро прафсаюзаў, па згодзе з прадпрыемствамі, на вёску як у раёны суцэльнай калектывізацыі, так і ў іншыя на часовую працу для правядзеньня сацыяльна-эканамічных мерапрыемстваў, захоўваюць свой сярэдні заработак у тым прадпрыемстве альбо ўстанове, дзе яны працуюць.

2. Паказаным у арт. 1 асобам за кошт прадпрыемства альбо ўстановы, дзе яны працуюць, выплачваюцца сутачныя ў разьмеры 1/60 іх апошняга акладу, кватэрныя ў разьмеры 2 руб. у дзень і праяздныя па сапраўднаму кошту.

Гэта пастанова мае сілу з 1-га красавіка 1930 г.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

25 красавіка 1930 г.
№ 28.

**Паст. 98. Пра выплату выхадной дапамогі і пра дачу водпускаў асобам, якія паступаюць у навучальныя ўстановы.**

Для разьвіцьця пастановы СНК СССР за 8 мая 1929 г., „Пра льготы для рабочых і служачых, якія пасылаюцца ў рабочыя факультэты і вышэйшыя навучальныя ўстановы“ (З. З. СССР 1929 г. № 30, арт. 279) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Рабочыя і служачыя, якія пасылаюцца партыйнымі, прафэсійнымі, савецкімі і гаспадарчымі органамі ў тэхнікумы, саўпартшколы, на курсы па падрыхтоўцы ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы, таксама рабочыя і служачыя, якія пасылаюцца ў Цэнтральную школу прафэсійнага руху і ў сувязі з гэтым пакідаюць свае месца работы— атрымоўваюць ад прадпрыемства альбо ўстановы, дзе яны працавалі, выходную дапамогу ў разьмеры месячнага сярэдняга заработку.

2. Усе рабочыя і служачыя, дапушчаныя мандатнай камісіяй да прыймовых іспытаў у Камуністычны Унівэрсытэт БССР імя У. І. Леніна, атрымоўваюць 2-месячны водпуск для падрыхтоўкі з захаваньнем сярэдняга заробку па сваёй пасадзе.

Чарговы і дадатковы водпуск (арт. арт. 114 і 115 Кодэксу аб Працы) даецца гэтым асобам незалежна ад паказанага ў гэтым арт. водпуску.

3. З паказанымі у арт. 2 асобамі працоўны дагавор касуецца, калі яны прыняты ў Камуністычны Унівэрстытэт, бяз выплаты выхадной дапамогі.

4. З часу ўваходу ў сілу гэтай пастановы касуюцца пастановы НКП БССР: а) за 5/II—1929 г. № 9 (Бюл. СНК 1929 г. № 4), б) за 13/VI—1929 г. № 42 (Бюл. СНК 1929 г. № 7), в) за 23/II — 1930 г.

№ 14 (Бюл. СНК 1930 г. № 4) і г) за 25 сакавіка 1930 г. (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 7).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

30 красавіка 1930 г.
№ 29.

**Паст. 99. Пра зьмену пастановы сваёй „Пра парадак найму і ўмовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў“.**

У адпаведнасьці з п. 3 пастановы НКП СССР за 29 сакавіка 1930 г. № 135 „Пра зацьверджаньне ў новай рэдакцыі норм спэцвопраткі для работнікаў сельскай і лясной гаспадаркі“ („Изв. НКТ“ 1930 г. № 11),—Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Запісаць арт. 11 пастановы сваёй за 20 сакавіка 1930 г. № 21 „Пра парадак найму і ўмовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў“ (Бюл. СНК 1930 г., № 6, паст. 81) так:

„11. Наймальнікі праз свайго ўпаўнаважанага павінны даваць бясплатна пастухам і падпаскам патрэбную рабочую вопратку і абутак ня ніжэй за наступныя нормы:

Плашч брэзэнтавы з каптуром . . на 2 гады,
боты скураныя . . . . . . . . . на 2 гады,
куртку ватнюю . . . . . . . . . на 2 гады (ў халодны сэзон).

Рабочая вопратка і абутак не залічваюцца ў заработную плату і пасьля сканчэньня тэрміну нашэньня астаюцца ў пастухоў і падпаскаў“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар НКП БССР *В. Марозаў.*

5 мая 1930 г.
№ 30.

**Паст. 100. Пра ўмовы ўжываньня працы падлеткаў у сялянскіх гаспадарках.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Прадпрыемніцкія і кулацкія сялянскія гаспадаркі, у якіх умовы наймовай працы рэгулююцца Кодэксам аб Працы, і кулацкія гаспадаркі, у якіх умовы наймовай працы рэгулююцца пастановай ЦВК і СНК СССР за 20 лютага 1929 г. (З. З. СССР 1929 г., № 17, арт. 114), ня маюць права прымаць на работу падлеткаў маладзей за 16 год.

З дазволу у кожным паасобным выпадку раённага ўпаўнаважанага па працы і сацыяльным страхаваньні, альбо інспэктара працы паказаныя гаспадаркі могуць прымаць падлеткаў ад 14 да 16 год для выкананьня лёгкіх работ. Такі дазвол можа давацца выключна падлеткам: а) круглым сіротам, б) бяспрытульным, в) адзіным кармільцам сям'і.

II. У працоўных сялянскіх гаспадарках з дапаможнай наймовай працай забараняецца ўжываць працу падлеткаў ад 14 да 18 год на непасільных і шкодных работах (арт. V).

Для выкананьня асабліва лёгкіх работ дапушчаецца ўжываньне працы падлеткаў ад 12 да 14 год.

III. Забараняецца ўжываньне працы падлеткаў да 16 год на начных работах.

IV. Падлеткі ад 14 да 16 год у кулацкіх гаспадарках і ад 12 да 14 год у працоўных сялянскіх гаспадарках, якім дазволена працаваць, могуць выконваць наступныя лёгкія работы: пасьба дробнай жывёлы ня звыш 25 штук, птушак, кароў і коняй ня больш 7, полка гародаў, збор фруктаў і гароднiны, паганяльшчыкі пры ўсялякіх сельска-гаспадарчых работах, пераноска цяжараў ня больш 8 клгр.

V. Падлеткі ад 16 да 18 год у кулацкіх гаспадарках і ад 14 да 16 г. у працоўных сялянскіх гаспадарках не дапушчаюцца да выкананьня наступных цяжкіх і шкодных работ: а) касьба касою, жніво серпам, б) перевозка, нагрузка і разгрузка цяжкіх рэчаў, каменьняў, падача снапоў на скірды і да т. п., в) падача снапоў у барабан малатарні, а таксама падача снапоў на плашчадку складзенай малатарні, г) работа на складных сельска-гаспадарчых машынах, д) цяжкія грабарныя работы, капаньне вялікіх канаў і да т. п., е) работа на складаных сельска-гаспадарчых машынах: касілках, жнеярках і г. д., ж) работа на самарэзках апроч падноскі саломы.

VI. У кулацкіх гаспадарках рабочы дзень падлеткаў ад 14 да 16 год ня можа перавышаць 4-х гадзін, а падлеткаў ад 16 да 18 год— 6 гадзін.

VII. У працоўных сялянскіх гаспадарках павялічаны рабочы дзень падлеткаў ад 12 да 14 год павінен быць ня больш за 6 гадзін і падлеткаў да 18 г.—ня больш 8 гадзін.

VIII. У кулацкіх гаспадарках падлеткам ад 14 да 18 год даецца месячны водпуск, альбо за кожны прапрацаваны месяц 2 дні.

IX. Наймальнік павінен адпушчаць падлеткаў у школы і пункты ліквідацыі няпісьменнасьці ва ўсе дні заняткаў у іх, што павінна запісвацца ў працоўныя дагаворы.

X. Калі інспэктар працы, альбо ўпаўнаважаны па працы і сацыяльным страхаваньні, альбо прадстаўнік сельскага савету выявіць падлеткаў маладзей за 14 г. на працы ў кулацкай гаспадарцы і маладзей за 12 год у працоўнай сялянскай гаспадарцы, дык ён зьнімае падлеткаў з працы, прыцягвае наймальніка да адказнасьці, а ў адносінах да бяспрытульных прымае захады да зьмяшчэньня іх у калгас або сельска-гаспадарчую камуну на выхаваньне.

XI. На працу ў сельскія грамады і ў групы наймальнікаў дапушчаюцца падлеткі ад 14 год.

XII. Наймальнікі, якія парушаюць гэту пастанову, прыцягваюцца да адказнасьці ў крымінальным альбо адміністрацыйным парадку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Сельскагаспадарчы Інспэктар НКП БССР *В. Марозаў.*

7 мая 1930 г.
№ 31.

## Абежнікі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.

### Паст. 101. Пра абавязковае дзяржаўнае страхаваньне працаўнікоў прафэсійных пажарных каманд.

*Усім акруговым агэнцтвам Дзяржстраху, Віцебскаму Акрвыканкому і акруговым пажарным інспэктарам.*

На падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 7 сакавіка 1930 году „Пра абавязковае дзяржаўнае страхаваньне працаўнікоў прафэсійных пажарных каманд БССР" (З. З. БССР 1930 г., № 15, паст. 103) Н. К. Унутраных Спраў і Кіраўніцтва Дзяржстраху БССР устанаўляюць наступны парадак гэтага страхаваньня:

1. Страхаваньне працаўнікоў прафэсійных пажарных каманд ад выпадкаў, якія могуць здарыцца пры выкананьні службовых абавязкаў або з прычыны выкананьня гэтых абавязкаў і могуць выклікаць сьмерць або страту працаздольнасьці поўнасьцю ці часткова, праводзіцца на падставе зацьверджаных НКФ СССР за 14 і 23 студзеня 1930 г. правілаў калектыўнага страхаваньня пажарных працаўнікоў прафэсійных пажарных арганізацый і працаўнікоў страявога складу міліцыі і актыўнага складу Крымвышуку.

2. Дзяржаўныя ўстановы і гаспадарчыя арганізацыі, на якіх ускладзен абавязак страхаваць пажарных працаўнікоў, павінны ўключыць у праекты выдатковых каштарысаў на 1930-31 г. адпаведныя крэдыты на правядзеньне страхаваньня. Тыя-ж установы і органы, якія маюць цяпер патрэбныя сродкі, павінны зараз-жа заключыць гэтае страхаваньне.

3. Страхаваньне заключаецца праз падачу ў акруговае ці раённае агэнцтва Дзяржстраху адпаведнай установай, якая ўтрымлівае прафэсійную пажарную арганізацыю, заявы з паказаньнем колькасьці працаўнікоў, што страхуюцца, і разьмеру страхавой сумы.

Усе пажарныя працаўнікі асобнай пажарнай арганізацыі павінны быць застрахованы ў аднолькавых страхавых сумах, у разьмеры ад 1000 руб. і да 3000 руб.

4. Адказнасьць Дзяржстраху пачынаецца з 24-х гадзін таго дня, у які страхавальнікам будзе ўнесана страхавая прэмія, і спыняецца ў дачыненьні асобных працаўнікоў з моманту, калі ён пакінуў працу ў пажарнай арганізацыі (загад аб звальненьні).

5. Прэмія па страхаваньню пажарных працаўнікоў устаноўлена ў 6 р. з 1000 р. страхавой сумы.

6. Дзяржаўныя ўстановы і гаспадарчыя органы павінны весьці падлік застрахаваных асоб як тых, што паступаюць на працу, так і тых, што звальняюцца, па журналу, форма якога пры гэтым даецца. Журнал павінен прад'яўляцца для кантролю прадстаўнікам Дзяржстраху па іх запатрабаваньню.

7. На акруговыя агэнцтвы Дзяржстраху і акруговых пажарных інспэктароў ускладаецца абавязак сачыць за тым, каб адпаведнымі

ўстановамі і органамі сваечасова было заключана страхаваньне пажарных працаўнікоў.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Старшыні Кіраўніцтва Дзяржаўнага
Страхаваньня БССР *Д. Стахееў.*

19 красавіка 1930 г.
№ 8-227/13-05.

Дадатак

**Журнал для падліку**

............................................................

............................................................

застрахаваных ад няшчасных выпадкаў па страхавому пасьведчаньню № ............ у страхавых сумах ............ руб. на выпадак сьмерці і інваліднасьці.

| №№ па чар. | Час запісу | Прозьвішча, імя і па бацьку | Узрост | Пасада | Час паступлен. на службу | Час, калі пакінуў службу. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | |

## Паст. 102. Пра страхаваньне ад няшчасных выпадкаў актыўных членаў дабравольных пажарных арганізацый.

*Усім акруговым страхавым агэнцтвам Дзяржстраху, акруговым пажарным інспэктарам БССР і Віцебскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту.*

Галоўным Кіраўніцтвам Дзяржстраху СССР, з зацьверджаньня НКФ СССР за 6/II-1930 г., у інструкцыю па ўжываньню пастановы СНК СССР за 21/II-1925 г. „Аб ільготах дабравольным пажарным арганізацыям“ унесена зьмена пра павялічэньне страхавых сум з 300 руб. да 500 руб. для радавых актыўных членаў пажарных арганізацый па страхаваньню ад няшчасных выпадкаў за кошт адлічэньняў з прыбыткаў Дзяржстраху на прэвэнтыўныя мерапрыемствы. У сувязі з гэтым НК Унутраных Спраў і Кіраўніцтва Дзяржстраху БССР устанаўляюць наступны парадак страхаваньня памянёных асоб:

1. Усе актыўныя члены дабравольных пажарных арганізацый, дзейнічаючых на аснове зацьверджаных у законным парадку статутаў, лічацца без усялякіх пісьмовых афармленьняў з 1 красавіка 1930 г.

застрахаванымі ад няшчасных выпадкаў, на выпадак сьмерці і інваліднасьці ў 500 руб. кожны. Па ўсіх гэтых страхаваньнях Дзяржстрах нясе адказнасьць за сьмерць або страту сталай працаздольнасьці ад няшчасных выпадкаў, здарыўшыхся з застрахаванымі пры выкананьні абавязкаў, зьвязаных з пажаратушэньнем, а таксама з абучэньнем пажаратушэньню. Страхсума для начальнікаў дружын застаецца ранейшая, г. зн. 500 руб.

Аб гэтай зьмене належыць абвясьціць усе пажарныя арганізацыі і савецкую грамадзкасьць.

2. Страхаваньне гэта праводзіцца за рахунак сум, што адлічаюцца на прэвэнтыўныя мерапрыемствы з прыбыткаў Дзяржстраху па страхаваньнях ад агня. У сувязі з гэтым, на акруговых пажарных інспэктароў, а таксама на акруговыя агэнцтвы Дзяржстраху, пры разглядзе ў адпаведных камісіях пытаньня аб разьмеркаваньні сродкаў Дзяржстраху, якія адлічаюцца на меры прэвэнцыі і рэпрэсіі, ускладаецца абавязак своечасовага і поўнага забясьпечаньня патрэбных для правядзеньня гэтага страхаваньня крэдытаў.

3. На акруговых пажарных інспэктароў ускладаецца абавязак паведамляць акруговым агэнцтвам Дзяржстраху весткі на 1 кастрычніка кожнага году аб колькасьці актыўных членаў дабравольных пажарных арганізацый. Весткі павінны прадстаўляцца не пазьней 5 кастрычніка.

На основе атрыманых вестак, акруговыя агэнцтвы робяць разрахунак прэміі па сярэдняй колькасьці знаходзіўшыхся ў працягу году ў дабравольных пажарных арганізацыях актыўных членаў іх, якая (колькасьць) павінна вызначацца складаньнем ліку названных работнікаў у пачатку і канцы аперацыйнага году і дзяленьнем сумы папалам.

4. Прэмія па страхаваньню на выпадак сьмерці або страты сталай працаздольнасьці ўстаноўлена ў суме 20 кап. у год за кожнага члена дружыны.

5. Для разрахунку страхавой прэміі за 1929/30 г. акруговыя пажарныя інспэктары павінны падаць акруговым страхавым агэнцтвам, а па Віцебшчыне—Акрвыканкому, не пазьней 15 мая параённыя весткі аб ліку актыўных членаў пажарных дружын па становішчу на 1 кастрычніка 1929 г. і 1 красавіка 1930 г., прычым у вестках патрэбна паказаць асобна лік начальнікаў дружын.

На падставе гэтых вестак, акруговыя агэнцтвы вызначаюць сярэднюю арытмэтычную колькасьць радавых членаў дружын і начальнікаў і вылічаюць прэмію за першае паўгодзьдзе 1929-1930 г., выходзячы з паўгадавога плацяжу, у суме 6 кап. за радавога члена. дружыны і 10 кап. за начальніка дружыны.

За другое паўгодзьдзе вылічаецца прэмія таксама па сярэдняй колькасьці ад ліку членаў дружын на 1 красавіка 1930 г. і пэрспэктыўных кантрольных лічбаў пажарных інспэктароў аб ліку дружыньнікаў на 1 кастрычніка 1930 г., з вылічэньнем прэміі ў суме 10 кап. за кожнага члена і начальніка дружыны.

6. Кожны член дружыны павінен падаць заяву ў сваю дружыну з паказаньнем асобы, якой павінна быць выплачана страхавая ўзнагарода ў выпадку яго сьмерці. Заявы захоўваюцца ў кожнай пажарнай дружыне. Калі заява аб вызначэньні асобы ня была пададзена, то страхавая сума выплачваецца законным насьледнікам, па пастанове суда.

7. У выпадку сьмерці застрахаванага асоба, вызначная для атрыманьня страхавой сумы, а пры страце сталай працаздольнасьці—сам застрахаваны павінен прадставіць Дзяржстраху адначасова з заявай аб выплаце страхавой узнагароды: 1) даведку пажарнай арганізацыі, дзе працаваў апошні, аб тым, дзе і калі зарэгістраваны статут гэтай арганізацыі і 2) копію акту аб няшчасным выпадку, завераную пажарнай арганізацыяй, міліцыяй, або сельсаветам. Апроч гэтага, падаюцца дадатковыя дакумэнты: у выпадку сьмерці—пасьведчаньне аб сьмерці, а ў выпадку страты сталай працаздольнасьці—даведка доктара, які лячыў пацярпеўшага, з паказаньнем цялесных пашкоджаньняў і проценту сталай страты працаздольнасьці.

8. Ліквідацыя страт па страхаваньню членаў пажарных дружын ускладаецца на акруговыя страхавыя агэнцтвы Дзяржстраху БССР, якім у далейшым раённыя агэнцтвы павінны накіроўваць для вырашэньня ўсе ліквідацыйныя дакумэнты.

9. Па тых няшчасных выпадках з радавымі членамі пажарных дружын, якія здарыліся да 1 красавіка 1930 г., страхавая ўзнагарода вызначаецца, выходзячы з страхавой сумы ў разьмеры 300 руб.

10. На пажарныя дружыны ўскладаецца абавязак весьці самым дакладным чынам кнігу асабовага складу пажарных дружын, прадугледжаную статутам і прад'яўляць яе для кантролю прадстаўнікам Дзяржстраху па іх запатрабаваньню.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Старшыні Праўленьня Дзяржстраху БССР *Д. Стахееў.*

25 красавіка 1930 г.
№ (па НКУС)—38
№ (па КДС)—13—05

„Зацьвярджаю".
Нам. Народнага Камісара Унутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.* 7 мая 1930 г.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

### Паст. 103. Інструкцыя пра правы і абавязкі вучастковых пажарных іструктароў.

1. На вучастковага пажарнага інструктара ўскладаецца:

а) кіраваньне пажарнаю справаю і арганізацыя супроцьпажарных мерапрыемстваў на тэрыторыі свайго вучастку;

б) кантроль і нагляд за становішчам супроцьпажарнай аховы ў насельных пунктах, у савецкіх і каляктыўных гаспадарках, на прадпрыемствах, складах, ва ўстановах, мясцох відовішч і г. д.

2. Для выкананьня пералічаных у п. 1 задач вучастковы пажарны інструктар абавязан:

а) складаць пляны па пажарнай ахове і праводзіць іх у жыцьцё пасьля ўзгадненьня з зацікаўленымі органамі і пасьля зацьверджаньня райвыканкомам і акруговым пажарным інспэктарам;

б) інструктаваць пажарныя арганізацыі калгасаў, насельных пунктаў і інш.;

в) арганізоўваць новыя пажарныя дружыны ў калгасах, саўгасах, насельных пунктах і г. д. у адпаведнасьці з вызначаным плянам;

г) распрацоўваць праекты абавязковых пастаноў райвыканкомаў, сельсаветаў і адпаведных гарсаветаў па папярэджаньню пажараў і барацьбе з імі;

д) дапамагаць пажарным арганізацыям у справе набыцьця пажарнага інвэнтару і арганізацыі майстэрняў для яго рамонту;

е) праводзіць агітацыю за агнятрывалае будаўніцва сярод насельніцтва, дапамагаць зямельным і іншым органам па гэтай справе, а таксама па вырабу агнятрывалых будаўнічых матарыялаў;

ж) дапамагаць органам Дзяржстраху атрымоўваць дакладныя зьвесткі аб пажарах для пажарнай статыстыкі;

з) даглядаць за будаўніцтвам, якое праводзіцца ў раснё для абароны інтарэсаў пажарнай аховы і забясьпечаньня супроцьпажарных мерапрыемстваў у працэсе будаўніцтва;

і) кіраваць пажаратушэньнем у тых мясцовасьцях, дзе няма пажарных кіраўнікоў-прафэсіяналаў;

к) пашыраць сярод насельніцтва веды пра папярэджаньне і барацьбу з пажарамі праз адпаведную прапаганду;

л) арганізоўваць савецкую грамадзкасьць на барацьбу з пажарамі, з іх прычынамі і вынікамі;

м) ставіць на пасяджэньнях райвыканкому даклады аб становішчы пажарнай аховы;

н) выконваць усе распараджэньні вышэйшых органаў пажарнай аховы.

3. Для ажыцьцяўленьня сваіх функцый вучастковы пажарны інструктар мае права:

а) утвараць абсьледаваньні і агляды супроцьпажарнага становішча ўсіх прадпрыемстваў, установ, калгасаў, саўгасаў, якія знаходзяцца на падведамнай тэрыторыі;

б) утвараць пасьля папярэдняга ўзгадненьня з мясцоваю ўладаю трывогі для праверкі баявой гатоўнасьці пажарных арганізацый;

в) складаць акты за парушэньне супроцьпажарных правіл і за невыкананьне супроцьпажарных мерапрыемстваў для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці праз адпаведныя аміністрацыйныя органы;

г) склікаць у вызначаным парадку нарады па пытаньнях пажарнай справы, а таксама інструкцыйныя нарады нізавых пажарных працаўнікоў;

д) прадстаўляць вызначаным парадкам да ўзнагароды пажарныя арганізацыі і асобных членаў іх за розныя паслугі па пажарнай справе;

е) рэвізаваць дзейнасьць пажарных арганізацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі падлеглага вучастку.

4. Вучастковыя пажарныя інструктары зацьвярджаюцца на пасадах акрвыканкомамі па Інспэкцыі Камунальных Спраў па прадстаўленьні акруговых пажарных Інспэктароў.

5. Тэрыторыі пожарных вучасткаў вызначаюцца акруговымі выканаўчымі камітэтамі, выходзячы з пастаноў Савету Народных Камісараў БССР за 2 кастрычніка 1929 г. (З. З. БССР 1929 г., аддзел II, № 29, паст. 181—„Пра камунальна-жылішчную гаспадарку і дабрабыт гарадоў БССР", арт. 18, п. „а" і за 2 лютага 1930 г. (прат. СНК БССР № 36, п. 1637).

6. Усё справаводзтва і справаздачнасьць вучастковымі пажарнымі інструктарамі вядзецца па асобных адміністрацыйных раёнах.

Інспэктар па Пажарнай Ахове НКУС БССР *Берасьневіч.*

7 мая 1930 г
№ 8—217.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

**Паст. 104. Пра зьняцьце заказу з урочышча „Гадылеўскае Балота“ Грудзінаўскай дачы Дняпроўскага лясьніцтва Магілеўскай акругі.**

Народны Камісарыят Земляробства БССР, улічваючы распачацьце працы па асушцы „Гадылеўскага Балота“ Магілеўскай акругі для пабудовы Электрастанцыі, пастанаўляе:

Зьняць заказ з ўроч. „Гадылеўскае Балота“ Грудзінаўскай дачы Дняпроўскага лясьніцтва Магілеўскай акругі (паст. НКЗ БССР за 28/І-1930,—Бюл. СНК БССР 1930 г., № 2, стар. 28—29, п. 7) на плошчы 1.200 га з 5-га мая г./г.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Нам Загадчыка Лясного Сэктара *Л. Кофман.*

4 мая 1930 г.

## Пастанова Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі і Народнага Камісарыяту Гандлю БССР.

**Паст. 105. Пра раёнаваньне вырабу і збыту безалкагольных і слабаалкагольных напіткаў паміж паасобнымі вытворчымі арганізацыямі і ўстанаўленьне адпускных гуртовых і раздробных цэн на гэтыя напіткі.**

Для пашырэньня вырабу безалкагольных і слаба алкагольных напіткаў, больш плянавага і поўнага задавальненьня імі насельніцтва, уніфікацыі і зьніжэньня існуючых зараз у розных мясцох і арганізацыях разнабойных цэн на гэтыя напіткі, на падставе пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 11/ІІІ-1930 г., ВСНГ і НКГ БССР пастанаўляюць:

1. Вызначыць вытворчую дзейнасьць пералічаных ніжэй арганізацый па выпрацоўцы і збыту безалкагольных і слабаалкагольных напіткаў наступнымі акругамі і іх раёнамі:

1) Белхарчтрэст: гарады Менск, Барысаў, Віцебск, Магілеў, Ворша і Полацак;

2) Белсампрамсаюз: г. Менск, усе раёны Менскай акругі (апроч г. Барысава), г. Ворша, усе раёны Аршанскай акр., усе раёны Магілеўскай акр., г. Бабруйск, усе раёны Бабруйскай акр. (апроч г. Слуцку і Жлобіна), г. Полацак, усе раёны Полацкай акругі;

3) БСІКА: усе раёны Гомельскай акр. (апроч г. Добрушу), усе раёны Віцебскай акр., г. Бабруйск, Слуцкі і Жлобінскі раёны Бабруйскай акр., г. Мазыр, г. Магілеў.

4) Гомсельхарчпрам: гарады Гомель, Рэчыца і Добруш (Гомельскай акр.).

5) Мазырскі прамтрэст: г. Мазыр, Калінкавіцкі і Петрыкаўскі раёны Мазырскай акругі.

Увага. У гарадох і раёнах, дзе выраб і збыт безалкагольных і слабаалкагольных напіткаў падзелен паміж некаторымі пералічанымі вышэй арганізацыямі, парадак вырабу і збыту гэтае прадукцыі ажыцьцяўляецца ў адпаведнасьці з пастановай Прэзыдыуму ВСНГ БССР за 9/IV-1930 г.

2. Устанавіць наступныя адзіныя гранічныя адпускныя гуртовыя і розьнічныя цэны для ўсіх дзяржаўных і каперацыйных арганізацый БССР на паасобныя віды безалкагольных і слабаалкагольных (ня звыш 1½%) напіткаў, а іменна:

| Віды напіткаў | Адп. гуртовыя цэны прамысловасьці | Розьнічн. продажн. цэны |
|---|---|---|
| Сіроп (кгр.) | 1 р. 15 к. | — |
| Вада газіраван. (кгр.) | 6 к. | 2 к. стакан, а з сіроп. 4 к. |
| Фруктов. воды (0,3 літр.) | 8 к | 10 к. |
| Квас клюквен. (0,4 „ ) | 10 к. | 12 к. |
| „ хлебны (0,3 „ ) | 8 к | 10 к. |
| Соладавы напіт. (0.4 літр.) | 10 к | 12 к. |

Увага. а) У адпускныя гуртовыя цэны прамысловасьці ўключаны транспартныя выдаткі па дастаўцы тавару да месца продажу (магазын, буфэт) у межах гораду, а для інагародніх—франка-вагон ст. адпраўленьня.

У выпадку, калі прадукцыя забіраецца спажыўцамі непасрэдна з заводу, дык прамысловасьцю робіцца скідка на транспартныя выдаткі ў разьмеры 8%.

б) У тых мясцох, дзе паказаныя напіткі прывозяцца (з-за адсутнасьці заводаў па вырабу гэтай прадукцыі) з іншых месц, на ўстаноўленыя вышэй адпускныя гуртовыя цэны налічваецца фактычны сабекошт транспартных выдаткаў ад бліжэйшага месца закупкі да месца рэалізацыі.

3. Існуючыя і тыя, што ўноў адчыняюцца, прадпрыемствы па выпрацоўцы слабаалкагольных і безалкагольных напіткаў, павінны прытрымлівацца санітарных правілаў „Аб парадку адчыненьня і ўтрыманьня прадпрыемстваў штучных вод“, зацьверджаных НК Аховы Здароўя і ВСНГ БССР.

4. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы падлягаюць судовай адказнасьці ў парадку арт. 202 Крым. Код.

5. Пастанова гэта ўваходзіць у сілу 28 красавіка 1930 г.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР *Васкабойнікаў.*

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

23 красавіка 1930 г.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Менск. Друк. Бел. Акад. Навук. Заказ № 2995. Тыраж 5100 экз. Галоўлітбел № 1572

